**№ 46 (1111)**

Аўторак, 13 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



# Опять двойка!




**Именно такую, если выражаться школьными терминами, отметку поставила властям Беларуси за соблюдение демократических норм при подготовке к довыборам в палату представителей и предстоящим президентским выборам делегация Европейской парламентской "тройки", визит расширенной делегации которой на Беларусь завершился накануне Международного женского дня. В состав делегации входили представители трех структур — Совета Европы, Парламентской Ассамблеи ОБСЕ и Европейского парламента. "Тройка" не видит оснований для пересмотра своего последнего решения относительно Беларуси — "прошлогодние выводы, свидетельствующие о недостаточном прогрессе в процессе демократизации в Беларуси, остаются в силе".**

*Корреспондент "Народной воли" по окончании визита взял эксклюзивное интервью у члена делегации — депутата Европейского парламента Элизабет ШРЕДТЕР.*

**— Какова цель очередного приезда "тройки"?**

— Это обычный плановый визит. Подобные визиты мы, представители европейских парламентских структур, организуем регулярно — преимущественно в страны, в которых имеются проблемы с демократией. Приехав в Беларусь на этот раз, мы хотели получить информацию о том, есть ли какой-то прогресс в направлении общепринятых стандартов демократии.

**— Ну и как — есть прогресс?**

— Несмотря на наличие незначительных положительных подвижек в некоторых вопросах, мы чрезвычайно обеспокоены ситуацией с правами человека. И эта ситуация складывается, к сожалению, неблагоприятно: мы знаем, к примеру, о неприемлемом с точки зрения соответствия европейским демократическим стандартам давлении на независимых наблюдателей и неправительственные организации.

**— С кем удалось встретиться в Минске?**

— Мы встретились с заместителем министра иностранных дел Мартыновым, руководителем Администрации президента Мясниковичем, председателем Центризбиркома Ермошиной, лидерами оппозиции, потенциальными кандидатами в президенты, некоторыми членами семей похищенных политиков.

**— Интересно, о чем говорили с Мартыновым?**

— Были обсуждены проблемы и трудности, связанные с независимым наблюдением за выборами, прежде всего в провинции. Европейские структуры всемерно содействуют и участвуют в организации независимого наблюдения во всех странах Европы, прежде всего в странах с переходной экономикой и тех, которые движутся в сторону демократии.

**— Предметом обсуждения были только предстоящие весной довыборы в Палату представителей или президентские выборы?**

— И те, и другие. Мы выразили представителям властей свою обеспокоенность тем, что практически никакого прогресса (и это сказано в заключительном заявлении нашей делегации) в вопросе демократических преобразований, выполнения четырех требований ОБСЕ не наблюдается.

**— Напомните нашим читателям эти четыре требования...**

— Прозрачность, открытость избирательного процесса, доступ представителей оппозиции и общественных структур к массовым СМИ, расширение полномочий действующего парламента и соблюдение периода мира в обществе. По нашей информации, сейчас на выборах в Национальное собрание допускаются многочисленные нарушения уже на этапе регистрации кандидатов, нет практически никакого прогресса в расследовании громких дел. Все это, несомненно, беспокоит нас как представителей европейских парламентских структур.

**— Стояла ли в повестке дня проблема похищенных Захаренко, Гончара, Красовского, Завадского?**

— Безусловно. Похищение людей на Беларуси — это предмет нашей особой обеспокоенности и тревоги. Всякий раз, приезжая в Минск, мы спрашиваем у представителей властей Беларуси, каковы результаты расследования, что нового? К сожалению, внятных ответов на наши вопросы мы не получили до сих пор. Особенно нам жаль родных и близких, с некоторыми из них мы также встречались.

**— На недавнем заседании Постоянного комитета ПА ОБСЕ в Вене депутаты Верховного Совета передали для рассмотрения письма-обращения о помощи к международному сообществу матерей похищенных политиков — Ульяны Григорьевны Захаренко и Валентины Адамовны Гончар. Как Вы думаете, могут ли международные структуры оказать реальную помощь в расследовании громких дел?**

— У нас нет полномочий вмешиваться во внутреннее расследование по делу похищенных политиков. Мы можем только выразить свою обеспокоенность, призвать власти к быстрейшему разрешению этой, безусловно, очень болезненной проблемы и предложить свою помощь в расследовании. Но за этой помощью ваши власти, как показывает практика, к европейским структурам не обращаются.

**— Вы встречались с Мясниковичем. Каковы Ваши впечатления?**

— На мой взгляд, он недопонимает или не хочет понимать глубину проблем, с которыми столкнулись сегодня власти Беларуси. Возможно, для Мясниковича те проблемы, та обеспокоенность, которую мы выражали, не так важны. Вряд ли такая ситуация, такое непонимание могут обрадовать.

**— Обсуждали ли Вы с представителями властей возможные сроки проведения президентских выборов?**

— Нет. Сроки проведения выборов президента — внутреннее дело Беларуси, и мы такие вопросы не обсуждали. Мы призвали ваши власти провести президентские выборы в максимально демократической атмосфере, особенно в сравнении с той недемократической атмосферой, которая царила на предыдущих выборах в октябре прошлого года. Мы понимаем, что результат президентских выборов — решающий, от него зависит дальнейшая судьба Беларуси, куда пойдет Беларусь в своем развитии... Для нынешних властей президентские выборы — окно в Европу, возможность вырваться из темной комнаты непризнания и осуждения. Если атмосфера на президентских выборах будет демократической, мы признаем нового президента и новые власти Беларуси.

**Александр СИЛИЧ.**

Слова святара

# Любі бліжняга, як самога сябе

Узлюбленыя ў Хрысце браты і сёстры!

Ісус Хрыстос казаў: "Узлюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю". Гэта першы і найбольшы запавет. Другі ж — падобны яму: "узлюбіце бліжняга твайго, як самога сябе".

А ці ж выконваюць гэтыя запаветы тыя, хто сёння пад авечаю лічынаю стаяць у цэрквах, просяць блаславення ў прадстаўнікоў кіруючых царкоўных улад, а пасля аддаюць незаконныя загады на расправу з мірнымі дэманстрантамі. Ці не яны адказныя за тое, што мы не ведаем праўды аб знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, сапраўдных патрыётаў і змагароў за незалежнасць нашай краіны, лепшы лёс і будучыню землякоў?

Жыццё ёсць вялікі дарунак Божы. Таму пазбавіць самога сябе ці другога жыцця — самы страшны, цяжкі і вялікі грэх. Чалавек бывае вінаваты ў забойстве нават тады, калі сам не забіваў, а садзейнічаў забойству ці хаця б дапусціў другіх да гэтага злачынства.

Апошнім часам усё часцей і часцей мы сустракаемся і з забойствамі духоўнымі. Выцясняюцца з краіны найбольш паважаныя і таленавітыя людзі, многія за іншадумства пакутуюць у турмах. Знішчаюцца беларуская культура, мова, наўмысна вядзецца русіфікацыя насельніцтва. З гісторыі мы вельмі добра ведаем: гэта — асноўныя ўмовы знішчэння незалежнасці краіны. У Беларусь вяртаюцца тыя часы, калі сусед на суседа пісаў данос, калі галоўным шчасцем для бальшыні было мець пакой у камунальнай кватэры, талон на пакупку кілаграма мукі ці грэчкі, калі ў цэрквах ці касцёлах рабіліся склады...

"Палажы душу, аддай жыццё сваё за сяброў сваіх" (з Запаведзі Хрыста). Гэтымі словамі я хацеў бы заклікаць вас, браты ў Хрысце, да памяці аб героях-суайчынніках, аддаўшых жыццё за Беларусь, з'яднацца на падставе Запавета Божага і пад сцягам нашай Айчыны ісці ўперад. Каб дзеткі ў слязах не чакалі татуль, прапаўшых без вестак, не выплаквалі б вочы матулі і жонкі. Словы Аляксандра Неўскага "Бог не ў сіле, а ў праўдзе" павінны стаць падмацаваннем для нас.

Беспакаранасць дзеянняў чыноўніцтва ў сферах і духоўнай, і свецкай стала для іх заахвочваннем да новых "подзвігаў". Яны любяць грошы дзеля звышразумнай раскошы і каб як мага далей утрымліваць сваю ўладу.

Любыя мае браты і сёстры, дарагія землякі! Звяртаючыся сёння да вас, блізкіх і родных суайчыннікаў, я хацеў бы пажадаць усім трываласці, мужнасці, здароўя, малітвы ад усяго сэрца за нашу Бацькаўшчыну, за наш народ!

Перад матулямі, якія выгадавалі такіх сыноў, як Юрый Захаранка, Дзмітрый Завадскі, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Андрэй Клімаў і іншыя, мы аддаём зямны паклон. Прадстаўнікі Беларускай народнай праваслаўнай царквы заўсёды ўзносяць малітву нашаму Творцу за тых, хто за кратамі, і за прапаўшых без вестак — як за жывых.

Захавай Вас Гасподзь Бог!

**Ян СПАСЮК,**
**мітрафорны пратаіерэй.**

Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Па паўночным захадзе дажджы, па Гродзенскай і Віцебскай абласцях месцамі дажджы моцныя. Вецер паўднёвы, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Гомелі — +10...+12, Брэсце і Мінску — +8...+10, Магілёве — +7...+9, Гродне і Віцебску — +6...+8.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі ападкі. Вецер паўднёвы з пераходам на заходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -3...+2, удзень — +3...+8. 14-га на ўсходзе Гомельскай і Магілёўскай абласцей уначы +1...+6, удзень +10...+15.

Навіны

# Як атрымаць легітымнага прэзідэнта

**Прадстаўнікі парламенцкай "тройкі" распаўсюдзілі заяву па выніках візіту 5—7 сакавіка ў Мінск, у якой вызначылі ўмовы, пры якіх прэзідэнцкія выбары ў Беларусі могуць быць прызнаны свабоднымі і дэмакратычнымі. Падкрэсліваецца, што свабодны і дэмакратычны характар правядзення выбараў будзе разглядацца ў якасці значнага прагрэсу ў працэсе дэмакратызацыі Беларусі, які мог бы садзейнічаць спыненню ізаляцыі краіны на міжнароднай арэне.**

Па-першае, як адзначаецца ў заяве, працэс падрыхтоўкі і правядзення гэтых выбараў павінен быць поўнасцю празрыстым і дэмакратычным ва ўсіх аспектах, у асаблівасці ў адносінах да працэсу рэгістрацыі кандыдатаў, складу выбарчых камісій і падліку галасоў.

Па-другое, усім кандыдатам павінны быць прадастаўлены роўныя ўмовы доступу да сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці, да электронных СМІ, і аднолькавыя магчымасці арганізацыі перадвыбарнай кампаніі.

Па-трэцяе, усе дзяржаўныя і ўрадавыя органы павінны ўстрымацца ад нейкіх дзеянняў, якія могуць быць кваліфікаваны як пераслед кандыдатаў, іх сваякоў або прыхільнікаў.

Па-чацвёртае, усім задзейнічаным ва ўнутраным назіранні за выбарамі (асабліва ў назіранні не на карысць таго ці іншага кандыдата) і ў прыцягненні і падрыхтоўцы да падобнай дзейнасці, павінна быць прадастаўлена поўная свабода дзеянняў у гэтым накірунку, уключаючы супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі, якое з'яўляецца найважнейшым элементам забеспячэння празрыстасці і магчымасці ажыццяўлення кантролю за выбарчым працэсам.

Прадстаўнікі парламенцкай "тройкі" ў выніковай заяве падкрэсліваюць, што "наяўнасць у грамадзян Беларусі рэальнай магчымасці выбару падчас прэзідэнцкіх выбараў з'яўляецца часткай працэсу дэмакратызацыі". Пры гэтым прадстаўнікі "тройкі" адзначаюць, што арганізацыя выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, сфармуляванымі АБСЕ, з'яўляецца толькі часткай працэсу дэмакратызацыі. Менавіта таму парламенцкая "тройка" працягвае выказваць сваю заклапочанасць у сувязі з сітуацыяй з правамі чалавека і адсутнасцю прагрэсу ў расследаванні знікненняў палітычных апанентаў — Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадскага.

Парламенцкая "тройка" "яшчэ раз пацвярджае сваю поўную прыхільнасць паляпшэнню адносін з грамадзянамі Беларусі ў рамках працэсу ўмацавання міру і стабільнасці ва ўсёй Еўропе. У гэтай сувязі яна прадоўжыць прапаноўваць уласную падтрымку і падтрымку структур, якія яна прадстаўляе, усім бакам, зацікаўленым ва ўмацаванні працэсу дэмакратызацыі ў Беларусі, незалежна ад таго, ці з'яўляюцца яны апазіцыяй або афіцыйнымі ўладамі".

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

# Дзеля выбараў трэба кінуць памідоры і агуркі

**Пытанні падрыхтоўкі да сёлетняй кампаніі па выбарах прэзідэнта абмяркоўваліся на пасяджэнні сойма — кіраўнічага органа Партыі БНФ і Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне" на чале з Вінцуком Вячоркам.**

Палеміка разгарнулася вакол пытання вылучэння адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі. Сябра сойма з Гродна Алесь Астроўскі заявіў, што Кардынацыйная рада дэмакратычных сіл (КРДС) павінна была ўжо некалькі месяцаў таму большасцю галасоў вызначыць дату правядзення Кангрэса дэмакратычных сіл, які б вылучыў такога кандыдата. Аднак старшыня БНФ Вінцук Вячорка падкрэсліў, што такі падыход раскалоў бы КРДС. Паводле слоў сп. Вячоркі, чатыры палітыкі, якія сёння называюцца як прэтэндэнты на ролю адзінага кандыдата ад апазіцыі, працягваюць перамовы між сабой. Пры гэтым, зазначыў лідэр Партыі БНФ, толькі старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык і лідэр аб'яднання "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш маюць за сабой рэальныя структуры. Апазіцыйныя сілы павінны працягваць перамовы і рыхтавацца да выбараў незалежна ад тэмпаў вылучэння "адзінага кандыдата", падкрэсліў Вячорка.

У прамовах многіх выступоўцаў таксама прагучала думка, што сёлета апазіцыйныя сілы маюць вырашальную магчымасць змяніць палітычны рэжым у краіне, і таму актывістам апазіцыі трэба сканцэнтраваць свае намаганні на прэзідэнцкай кампаніі, забыўшыся на шмат якія асабістыя справы кшталту працы на лецішчах. "Калі мы будзем планаваць звычайны беларускі год з памідорамі, з гуркамі, дык няма чаго ўвязвацца ў кампанію," — сказаў сп. Бяляцкі.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

# Завяршаецца падпіска на "Народную волю"!

"Народная воля" аб'яднала шырокавядомых публіцыстаў краіны і самых нераўнадушных чытачоў. Наша агульная мэта — незалежнасць Радзімы, шчасце народа.

**Нашы аўтары:**

— пісьменнікі **Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Анатоль Казловіч, Алесь Петрашкевіч** і многія іншыя;
— кінарэжысёр **Віктар Дашук;**
— філосаф-вучоны **Вячаслаў Оргіш;**
— юрыст-вучоны **Міхаіл Пастухоў;**
— эканамісты-навукоўцы **Уладзімір Кулажанка, Іван Нікітчанка, Барыс Жэліба;**
— грамадскія дзеячы **Людміла Гразнова, Анатоль Лябедзька, Васіль Шлындзікаў, Уладзімір Нісцюк;**
— журналісты **Уладзімір Глод, Анатоль Гуляеў, Марына Коктыш, Алесь Сіліч, Андрэй Сяржан, Ганна Соусь, Марыя Эйсмант.**

Яны працуюць для вас, нашы чытачы.

У 2001 годзе газета распачала доўгатэрміновую праграму "Энцыклапедыя "Народнай волі". Мы раскажам пра слынных вучоных, вайскоўцаў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры, якія нарадзіліся ў Беларусі, сталі вядомымі ў свеце, але засталіся амаль невядомымі на Радзіме. Чытачы змогуць стварыць з газетных матэрыялаў уласныя энцыклапеды.

Больш увагі, чым раней, газета будзе ўдзяляць жыццю ў рэгіёнах краіны. Чытач ужо заўважыў нашу пастаянную рубрыку "Камандзіроўка". Карэспандэнты "Народнай волі" ўвесь час у дарозе.

Як заўжды, на старонках "НВ" будуць прысутнічаць рубрыкі "Скандал", "Закулісце", "Калідоры ўлады", "Лёс чалавека". Канешне, мы не забудзем спорт, шашкі, шахматы, красворды.

Няхай у вашай хаце будзе свята — "Народная воля".

Паспяшайцеся падпісацца на "Народную волю"! Падпіска на другі квартал прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленнях, пунктах "Белсаюздруку", у грамадскіх распаўсюджвальнікаў.

**Кошт падпіскі — на ўзроўні чацвёртага квартала 2000 года:**
**Для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс — 63222):**
на адзін месяц — 1500 рублёў; на квартал — 4500 рублёў.
**Для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадавой або квартальнай падпіскі (індэкс — 63429):**
на адзін месяц — 1200 рублёў; на квартал — 3600 рублёў.
**Для ведамаснай падпіскі (індэкс — 63225):**
на адзін месяц — 3000 рублёў; на квартал — 9000 рублёў.

Клініка

# Затрымалі, абшукалі, канфіскавалі...



Супрацоўнікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь вечарам у нядзелю высадзілі з цягніка і абшукалі старшыню выканкама Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яўгена Лабановіча, які накіроўваўся ў Маскву для сустрэчы з вядучым тэлепраграмы НТБ "Независимое расследование" Мікалаем Нікалаевым.

Яўген Лабановіч вёз пакет дакументаў пра зніклых у Беларусі вядомых людзей — Віктара Ганчара, Юрыя Захаранку, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага і відэакасету з копіяй фільма Паўла Шарамета "Дзікае паляванне". У затрымаўшых Лабановіча прадстаўнікоў праваахоўных структур быў ордэр на правядзенне вобыску. Відэакасета, а таксама адзін з дакументаў у Лабановіча былі канфіскаваны. Аднак ён папрасіў асоб, якія яго праводзілі, тэрмінова зрабіць копіі канфіскаваных дакументаў і праз некалькі гадзін усё ж паехаў у Маскву.

Ведаю абсалютна дакладна (таму што сам рыхтаваў пакет для Лабановіча), што Яўген не вёз у Маскву ніякіх сакрэтных дакументаў, а толькі газеты, якія выходзілі за апошнія два гады, з публікацыямі пра зніклых, а таксама раздрукаваныя матэрыялы з Інтэрнету. Нічога сакрэтнага ці забароненага. Цікава, чаму гэта працаўнікам пракуратуры, якія так "паспяхова" расследуюць "гучныя справы", раптам захацелася абшукаць партыйнага функцыянера. І як пракуратура наогул даведалася пра паездку Лабановіча ў першапрастольную?

**Алесь СІЛІЧ.**

*Пр. Марыны, Васіля, Мікалая, Несцера. К. Бажэны, Хрысціны.*

САКАВІК
**13**
АЎТОРАК

☉ Усход 6.30
Захад 18.10
Даўж. дня 11.40

☾ Апошн. квадра 16 сакавіка
Захад 8.54
Усход 23.27



# ...Их души не ведают покоя

Здравствуй, уважаемая "Народная воля"!

Я принадлежу к числу тех людей, которые из-за творимого властями беспредела на предприятиях оставили свои рабочие места. Это десятки, сотни тысяч в масштабе Беларуси свободных, не желающих быть рабами людей. Перед нами не стоит вопрос: за кого голосовать на предстоящих выборах? Даже эта бесовская истерия на БТ и радио вызывает только жалость к тем людям, которые ее учинили. Прости их, Господи, ибо не ведают они, что творят. Только умный и мудрый человек поймет, что в этой жизни за все приходится платить. Давайте попробуем изменить свой духовный мир, научимся уважать себя и других.

Я побывал во многих, как их сейчас называют, элитных домах. Нет, в них живут не учителя и рабочие, не представители оппозиции и крестьяне. Очень многие из тех, кого, как тараканов, расплодила эта система. За железными дверями, с охраной внутри дома, их души все равно не ведают покоя. Купаясь в море соблазнов, удовольствий, они не понимают тех, кто устал думать, как заработать себе на достойную жизнь. Чабан, пасущий овец, хорошо кормит сторожевых барбосов, чтобы те хорошо стерегли стадо. Тех потом стригут и получают прибыль. Мы же не овцы и не барбосы, которых сегодня, впрочем, полно на каждом предприятии. Я думаю, что сегодняшняя власть явно не осознает, какое огромное число ее противников готовы подписать ей заслуженный приговор. Можно лить ложь, чинить подлость, подтасовать выборы, но покоя и облегчения тем, кто это делает, заключив договор с дьяволом, это не принесет.

С уважением —
**В.ЕРЕМЕНКО,**
**34 года,**
**бывший рабочий.**

Минск.



Виктор Полховский не только первоклассный водитель колхоза имени Горького Пинского района, но и прекрасный резчик по дереву. Оформленные им рамки для зеркал, полки, мелкие фигурки и декоративные изделия воплощают в себе сказочные образы и фольклорные мотивы, различные картинки природы. Чтобы ремесло не угасло, Виктор Иванович организовал в сельском Доме культуры кружок резьбы по дереву, который посещает больше десятка деревенских ребятишек.

**На снимке:** *житель деревни Кнубово Пинского района Виктор Полховский со своими работами.*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

# Няўтульны дом

## Мы самі ствараем карціну жахаў і прывідаў

**Уладзімір АРЛОЎ, кінарэжысёр**

Будынак бібліятэкі графаў Літавар-Храптовічаў, што ў вёсцы Шчорсы, я ведаў яшчэ ста студэнцтва. Тады тут была школа. За наступныя трыццаць з нечым гадоў школу пабудавалі новую, а тут некаторы час месціўся музей, пасля і ён стаўся без патрэбы, потым... А потым было тое, што я ўбачыў, вырашыўшы менавіта тут на здымачны год размясціцца с серыялам "Пракляты ўтульны дом". Двухпавярховы, абадраны, з падцёкамі, аблуплены будынак, ніжнія вокны закалочаны дошкамі, на другім паверсе ў рамах са старажытнымі медзянымі пруткамі-засаўкамі — ані-воднай шыбы, з печак выдраныя заслонкі, дзверы скінутыя. А на падлозе, на маснічках-паркецінах наборнай выкладкі, па якіх ступалі А.Міцкевіч, У.Сыракомля, Т.Зан, І.Лелевель, Я.Чачот, было па калена бруду, вынікаў шматгадовага існавання галубоў, смецце, зломкі немаведама чаго. Амаль тыдзень наша брыгада разграбала завалы, яшчэ два фарбавала, шкліла, абсталёўвала дом — хаця б касметычна, для здымак. Дзякуй Богу, быў бляшаны дах, што паклаў старшыня калгаса. Літаральна ў першай жа сцэне, якую тут здымалі, маладая гаспадыня выгаворвае кухару: "Што ж ты пану афіцэру падаеш ваду ў чарпаку, а не ў келіху?" — "А дзе ж келіх возьмеш, — адказвае той, — калі маскалі ў час рабавання ўвесь посуд пабілі і ў сметнік пакідалі!"

Я пацікавіўся, а дзе ж мэбля, посуд, рэчы Храптовічаў. Тутэйшыя ў адказ: што па хатах парасцягвалі, посуд скінулі пасля вайны ўжо ў сутарэнне палаца — чаркі, падносы, вытанчаныя бутэлькі праз гады знайшлі сярод шкляных зломкаў, калі пракладалі водаправод. А шмат чаго, узгадвалі тутэйшыя, звезлі ў суседнюю вёску, на незачыненае гарышча клуба, і дзеткі там доўга яшчэ ганяліся адно за адным са шляхецкімі шаблямі.

***

У вежы даўно не існуючага Любчанскага палаца — былога валодання баронаў Фальцфейнаў — быў некалі гандлёвы тэхнікум, затым класы СПТУ, потым... потым тое ж, што і ў Шчорсах. Але для здымак жахаў і прывідаў у таямнічай вежы, куды, паводле сюжэту, дзесяць год ніхто не заходзіў, гэта адпавядала. Канешне, пасля "гандлю" і СПТУ трэба было надаць вежы хаця б якія рысы, прыкметы былога, "баронскага", жыцця ды ўмацаваць дах, каб не абваліўся ў час здымак на акцёраў. Дадэкаравалі і паспелі зняць. А пасля зімы перакрыцці ўсіх трох паверхаў усё ж абваліліся, адно ацалеў на першым ананімны самагонны апарат.

***

У вёсцы Белае — на радзіме двойчы Героя, касманаўта Уладзіміра Кавалёнка, — убачыўшы нас з кінакамерай, сяляне сталі прапанаваць "сюжэты":

— Во, калонку скурочаную здыміце! І магазін пабіты!..

Божа мой, усе — мо, з тры сотні! — шклаблокаў фасаду крамы, што якраз насупраць хаты славутага земляка, былі прабіты. Кожны! Усе да аднаго! Гэта ж колькі "працаваць" трэба было! Крама, як і папярэджваў мяне ў Маскве Кавалёнак, аўтарытэтам якога некалі яна тут і ўзнікла, канешне ж, не працуе, па запалкі ходзяць цяпер старыя за 5 кіламетраў. Пытаюся ў іх:

— Дык што, гэта мы з горада прыязджалі кідаць камяні? Вашыя ж унукі і павыбівалі ўсё!

Сціхлі вяскоўцы незадаволена — каму ж праўда прыемная! Уздыхнулі:

— Пры калгасе не было б такога! Пры калгасе было лепей!

— Дык вы ж калгас і раскралі!

— Тут даў ім, абураным, выкрычацца, а потым папрасіў адказаць, толькі шчыра: — Хто з вас калі хаця кілаграм збожжа купіў для пасеву? Хто сплаціў хаця за кілаграм мінеральных угнаенняў? За фарбу, цэглу, за шкло? Чые дзеці, наязджаючы, хаця б літр паліва купілі? Усё цягнулі з калгаса.

Маўчаў народ, бо перад сваімі хлусіць не рашаліся, а праўда не падабалася. Але — аргумент:

— Дык у калгасе ўсяго было многа!

***

Экранізуючы ў мінулым годзе Караткевічаў "Мсціслаў", прыбылі ў Малую Багацькаўку, на радзіму Максіма Гарэцкага. Людзей з кінакамерай пацягнулі да калодзежа ля самай дарогі. Накрыўка была падгнілая, раструшчаная. Зноў прапанова:

— Во, здыміце! Тры гады п'ём ваду папалам з пылам і ўсё пішам у сельсавет. Раней бы — у райкам, а цяпер...

— А каб самім накрыўку аднавіць?

— Дык жа ў нас няма каму!

Некалькі мужыкоў пакурвалі на бярвеннях, паглядвалі на сваіх крыклівых жанчынак, ды з намі побач стаяла з паўтузіна дужых хлопцаў — пэўна ўнукаў, — пагладжвалі вожыка.

— Во — сіла! — раю. — Яны ж не ведаюць, чым улетку заняцца!

— А дошкі дзе ўзяць?!

Я разварочваю людзей да музея пісьменніка:

— Вось чатыры кінутыя хаты, крапіва вышэй даху. Бярыце дошкі, якія падыдуць.

Але не даспадобы была мая рада, а таму — чарговы "аргумент":

— А дзе ж пілка, малаток, цвікі?..

І далей будуць яны пісаць і чакаць дзядзькаў з малатком і да смерці сёрбаць брудную ваду. Сведкам дыялогу з народам быў былы першы сакратар Мсціслаўскага райкама, руплівы гаспадар Пётр Катушкін.

***

Рушылі мы на ягоную бацькаўшчыну, у вёску Засенічы, і ён расказваў пра бацькоўскі дом:

— Штакетнічкам абгароджаны, лавачка, лазенка, усё вагонкай абшалёвана, пафарбавана! — Ён даўно не бываў на бацькаўшчыне, хваляваўся, як, пэўна, кожны, набліжаючыся да дому.

Цяпер тут жылі чужыя людзі. Плот — як зубы, павыбіваныя ў бойцы, абабітыя прыступкі, назаўсёды закалочаны і завалены нечым ганак, заімшэлая пакрыўленая лавачка, вароты — і на вуліцу, і ў поле, — наўсцяж, слой бруду, нават на цэментавым пераходзе, усюды куры, качкі, падаўленая рэпа, цабэркі з нечым. Замест шыбаў у некаторых акенцах хаты кавалкі дыхту. У сенцах лазенкі, пакоі адпачынку, распранальніцкай, у самой парылцы не было паху бярозавых венікаў. Усюды было бруднае "нешта": зломкі, зрэзкі, часткі нечага, раструшчаныя карабы, ржавыя жалезіны. А пад нагамі — старое зашмальцаванае "адзенне", якое не тое, што крануць, — ступіць на яго брыдка. Спахмурнеў Пётр Міхайлавіч:

— А тут жа жывуць маладыя спецыялісты...

Не, на варвараў тутэйшыя жыхары, канешне ж, "не цягнулі", а вось на засранцаў — дакладна!

***

А дзе ж старадаўнія кнігі, рукапісы, мапы з бібліятэкі Храптовічаў? Ці не паскіданыя туды ж, куды трапілі панскія пажыткі? Не, іх своечасова вывезлі некалі ў Кіеў, Варшаву, Санкт-Пецярбург, дзе рупліва захоўваюць. А тут ужо не раз чуў: "Будзем патрабаваць, каб вярнулі!" Не трэба. Не вернуць. І правільна зробяць. Бо ў кожным з тысячы фальваркаў на Беларусі існаваў наладжаны шляхецкі побыт, былі разбяная мэбля, парцалянавы посуд, тканіны, зброя і партрэты продкаў. І кнігі, хай і не ў такой колькасці, як у Храптовічаў. Ваенныя навалы "раскідвалі гнёзды" часткова, астатняе сяляне расцягвалі, альбо, не ведаючы, як ужыць, скідвалі ў сутарэнні, — скарб для археолагаў!

Што ж мы бачым у вясковых музеях? Да абавязковых зломкаў крэсіва ды зуба маманта — лапці, кросны, рушнікі, усялякая "кудзеля-мудзеля", — першапобыт, як у "Песні пра Гайявату"! Людзей прызвычайвалі да думкі, што перад "стрэлам "Аўроры" народ так і жыў. А што, паны — не народ? Дзе ж тое, што ў "Пану Тадэвушы"? Што мела засцянковая шляхта, якая — таксама "народ"?

У вёсцы Варонча на падмурку "тадэвушавай" сядзібы, якую тутэйшыя па цагліне расцягвалі, — школа. Новая, вядома ж. Пра унікальныя, адзіныя на Беларусі могілкі з помнікамі высокамастацкага ўзроўню, з радавым пахаваннем Вярэшчакаў, Булгакаў, Чачотаў, Войнаў, ні ў адным даведніку ані слова. Затое ёсць у паляка Р.Рэнкоўскага. А ў суседняй Райцы — таямніча-дзівосная каменная калона з бляшанай качкай наверсе, са змяюкай, што, абвіўшы яе, цягнецца да зямлі. Двое старых узгадвалі, што некалі яны знялі з калоны шыльду з волава і некуды "загналі" яе. А калі? — пытаюся. Не памятаюць. Што было напісана? Не памятаюць. Хаця якімі літарамі — расійскімі ці польскімі? Паціснулі плячыма... А праз дарогу, на ўзгорку, па-за старымі могілкамі — велічныя рэшткі касцёла, што пачынаў развальвацца, варта толькі было зайграць аргану. На версе ацалелага франтону, паміж вежамі, экспрэсіўная постаць св.Барбары, вядома ж, без галавы. "Яна ўся з волава! — патлумачылі бялявыя хлопчыкі. — А галаву мы адламалі". Навошта? — запытаўся.

*"Яны ў адказ*
*адно — смяюцца, —*
*Такі народ"*

**(Г.Бураўкін).**

Ні пра слуп, ні пра касцёл Барбары, — ні ў адным даведніку. Нават у неблагім выданні "Архітэктурныя помнікі Беларусі", дзе падрабязна пералічаны помнікі правадыру ў кожным райцэнтры, якія ўсюды апаноўваюць галубы. Толькі ў Мсціславе, здаецца, і няма такой "прыкметнасці" — як гэта Пётра Катушкін вывернуўся з гэтай абавязковасці?!

Ні на выданне поўнага каталогу старажытнасцяў, ні, тым больш, на рэстаўрацыю сродкаў няма. А проста енк, бы ў Ганечкі з "Ідыёта": "Няма грошай! Дайце мне грошы!" І нічога не робяць. Чакаюць. Выхавалася папуляцыя "чакальшчыкаў": грошай, волі, дабрабыту.

***

У СССР працэнтнае размеркаванне бюджэту па саюзных рэспубліках было стандартнае. Дык адкуль жа ў Таліне, ажно з канца 70-х, былі грошы, каб працавала там сусветна вядомая польская фірма, што рэстаўрыравала старую частку горада. А ў нас у гэты ж час руйнавалі Нямігу, узводзілі новабудоўлі на раскопах. На невялікай замкнутай плошчы ўзвялі калоса-Коласа, памерам са сфінкса ў неаглядняй пустыні. У цяністы ўтульны скверык уціснулі Гулівера-Купалу, памеры якога "навязалі" аўтару гэтай скульптуры. Крывёй палітыя брэсцкія ўмацаванні згрэблі бульдозерамі пад пляцоўку для выставы жудасных цыклапічных галоў. Усё гэта — правінцыйна-імперская прага да манументальнасці. А рэспублікай і горадам кіравалі тады самыя, што ні на ёсць, шчырыя беларусы, аднаго з якіх імкнуцца сёння пераўтварыць у ікону. Яны бывалі ва ўтульным Таліне, а Масква не загадвала ставіць калосаў у гарадской цісканіне.

***

Чытаю ў А.Казловіча пра некалі квітнеючы "балотны хутар": "...пни сада, дом сожжен дотла, сараи полуразобраны, колодец разрушен, журавль повален, чудо-погреб широко распахнут, на полу остатки кострища. После белорусов территорию заняли варвары". Анатоль, сцэнарыст мой дарагі, сябра душэўны! Адышлі беларусы і прыйшлі беларусы. Дык хто — варвары?

Хто ўначы, пасля аднаўлення намі для здымак бібліятэкі Храптовічаў, праз невядомы падземны ход — гены дзядоў-партызан! — прабраўся ва "ўтульны" ўжо дом, абарваў і запэцкаў каштоўныя драпіроўкі, забрудзіў аліфай, што яшчэ не паспелі прыбраць дэкаратары, усе да адной сцены ўсіх чатырох адрэстаўраваных пакояў, паламаў кветкі, абліў фарбай дывановую абіўку мэблі, што пазычыў нам навагрудскі музей Міцкевіча, на спецыяльна пашыты з вэлюму абрус круглага трохметровага стала, у самым цэнтры, — гены бацькоў-брыдкалюбаў! — наклаў кучу? Мясцовы ільнавалосы анёлападобны падлетак. І чатыры ўнукі касманаўта не наязджалі з Расіі, каб пуляць камянямі ў трыста шклаблокаў крамы ў дзедавай вёсцы, — гэта справа ручак нашых блакітнавокіх алесікаў-юрасікаў. І сходы ў нашых дамах забруджваюць і абмочваюць не піянеры з Сыктыўкара.

Найсумнейшыя для мяне кнігі "Архітэктурныя помнікі Беларусі" і "Паркавыя сядзібы", дзе кожны нарыс заканчваецца ўздыхам: "На жаль, не захаваўся... амаль разбураны... у апошняй стадыі захаванасці". Такі ж стогн у кожным нумары "Культуры" з матэрыялаў нясьтомнай плакальшчыцы над раскіданымі камянямі Святланы Ішчанкі. З горыччу патаешся: а дзе ж бралі грошы на ўзнаўленне разбамблёных, такіх жа сацыялістычных Варшавы, Дрэздэна? Адкуль бралі сродкі на рэстаўрацыю ў савецкім Таліне?

Ніхто не прынясе нам вялізы з далярамі: гэта на аднаўленне помнікаў, гэта — на чарговы кінашэдэўр, гэта на... Грошы, як і волю, не чакаюць. Іх здабываюць, зарабляюць, робяць — "make money", калі не зразумела па-беларуску. Якім чынам? А такім, як адбудовец Дудуткаў Яўген Будзінас, як сённяшні наш "першадрукар" Анатоль Кудраўцаў, як прадзюсер буйнейшых фестываляў Міхаіл Фінберг, як дырэктар музычнай школы Тамара Куніцкая, якая абсталявала дзеткам унікальны будынак і набыла для іх амерыканскі раяль...

Пералічыў толькі са свету мастацтва і толькі некаторых са знаёмых. Яны актыўна дзейнічаюць "у наш цяжкі час"... Тым, хто ўжывае вось гэты дурны выраз, пытанне: калі быў "лёгкі час"? калі народу жылося лёгка? Назавіце дзесяцігоддзе, год. Хаця б тыдзень?! Быццам быў у Беларусі залаты XVI век, калі ў ботах хліпалі па кісельных берагах, каб дайсці да малочнай ракі. Гэта казкі. Жыццё — цяжкі занятак чалавека.

## Навіны

### Новые правілы перамяшчэння тавараў праз мяжу

**11 сакавіка пачаў дзейнічаць новы парадак перамяшчэння праз мяжу Беларусі рэзідэнтамі і нерэзідэнтамі тавараў не для камерцыйных мэт.**

Згодна з зацверджаным палажэннем, пры ўвозе-вывазе тавараў не для камерцыйных мэт фізічным асобам прадастаўляецца шэраг ільгот па выплаце мытных плацяжоў. Напрыклад, пры ўвозе фізічнымі асобамі асабістай маёмасці агульным коштам да 1000 долараў ЗША мытныя плацяжы не спатрэбяцца. У складзе такой маёмасці ўлічваюцца і абмежаваныя да ўвозу тавары. Гэта, у прыватнасці, не больш за 3 літры алкагольных напояў, 200 штук цыгарэт або 200 грамаў тытуню ці іншых тытунёвых вырабаў, 5 адзінак ювелірных вырабаў, не больш за 3 прадметы адзення з натуральнай скуры і (або) футры, 1 адзінка відэазапісваючай або відэаўзнаўляючай апаратуры на аднаго чалавека.

У выпадку ўвозу фізічнымі асобамі асабістай маёмасці, у склад якой будуць уваходзіць названыя тавары, мытныя плацяжы не спатрэбяцца, калі агульны мытны кошт такой маёмасці не перавысіць сумы, эквівалентнай 1000 долараў ЗША. Калі ж агульны мытны кошт маёмасці перавысіць 1000 долараў ЗША, то неабходна будзе заплаціць мытныя пошліны і падаткі па адзінай стаўцы 30 працэнтаў ад мытнага кошту маёмасці.

Асабістая маёмасць, увозімая ў адрас фізічнай асобы праз міжнародныя паштовыя адпраўленні, поўнасцю вызваляецца ад выплаты мытных плацяжоў, калі мытны кошт гэтай маёмасці эквівалентны суме да 100 долараў ЗША. Пры гэтым маёмасць, увозімая іншым спосабам у адрас фізічнай асобы, якая не выязджала за межы Беларусі, абкладаецца мытнымі пошлінамі і падаткамі па адзінай стаўцы 30 працэнтаў.

Забараняецца перасылка ў Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў у міжнародных паштовых адпраўленнях. Аднак перасылка такіх вырабаў з Беларусі ў міжнародных паштовых адпраўленнях дапускаецца.

**Аляксей АРЭШКА.**

### Беларуская "Кунсткамера" зноў чакае наведвальнікаў

**Днямі зноў адчыніла свае дзверы першая і пакуль адзіная ў краіне беларуская "Кунсткамера". Не зусім звычайная музейная экспазіцыя размешчана на кафедры анатоміі чалавека пры Гродзенскім медыцынскім універсітэце і налічвае каля шасцідзесяці экспанатаў. І хоць музею няма нават і года, але ўжо ёсць унікальныя экспанаты, якіх няма ў піцерскай "Кунсткамеры".**

Асноўныя наведвальнікі — студэнты і школьнікі, якім на канкрэтных прыкладах стваральнікі музея, а менавіта дацэнт кафедры анатоміі Юрый Кісялеўскі і загадчык кафедры прафесар Сяргей Усоеў тлумачаць, у чым шкода курэння, алкагалізму і наркаманіі. І, як сведчаць першыя запісы ў кнізе водгукаў, на моладзь аказвае вялікі ўплыў гэтая экскурсія.

**Таццяна КУЧЫНСКАЯ.**

## Колонка юриста



*Олег ВОЛЧЕК, автор рубрики, ждет ваших вопросов*

### Раздел совместно нажитого имущества

***Мы купили сыну квартиру в 1996 г., женился он в 1997 г. Может ли невестка при расторжении брака претендовать на часть квартиры?***

**М.Ковалева, Минск.**

В соответствии со ст. 25 Кодекса РБ о браке и семье имущество, принадлежащее супругам до вступления в брак, а также полученное ими в период брака в дар или в порядке наследования, является собственностью каждого из них. Имущество каждого из супругов может быть признано их общей совместной собственностью, если будет установлено, что в период брака были произведены вложения, значительно увеличившие стоимость этого имущества (капитальный ремонт, переоборудование и т.п.), если иное не предусмотрено Брачным договором.

В том случае, если квартира вашего сына будет признана их общей совместной собственностью, то в случае раздела — их доли признаются равными. В отдельных случаях суд может отступить от начала равенства долей, учитывая интересы несовершеннолетних детей или заслуживающие внимания интересы одного из супругов. Доля одного из супругов, в частности, может быть увеличена, если другой супруг уклонялся от трудовой деятельности или расходовал общее имущество в ущерб интересам семьи.

### Контракт как вид трудового договора

***Что такое контракт, на какой срок он заключается?***

**Н.В.Филатова, Минская обл.**

**Контракт** — трудовой договор, заключаемый в письменной форме на определенный в нем срок, содержащий особенности по сравнению с общими нормами законодательства о труде и предусматривающий конкретную минимальную компенсацию за ухудшение правового положения работника (п.2 Постановления СМ РБ от 25.09.1999 г. № 1476 "Об утверждении положения о порядке и условиях заключения контрактов нанимателей с работниками").

В соответствии **с п.1 декрета президента Республики Беларусь от 26.07.1999 г. № 29 "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины"**, нанимателям предоставлено право заключать с работниками контракты на срок не менее одного года. В случаях, предусмотренных законодательством Республики Беларусь, заключение контрактов является обязательным.

Заключение контрактов с работниками, трудовые договоры с которыми были заключены на неопределенный срок, осуществляется в порядке, предусмотренном законодательством о труде. При этом о переводе на контрактную форму найма работник должен быть предупрежден не позднее чем за один месяц до заключения контракта.

При отказе работника заключить контракт трудовой договор прекращается по причине отказа работника от продолжения работы в связи с изменением существенных условий труда.

Действие указанных контрактов может быть прекращено до истечения их срока по основаниям, предусмотренным законодательством или контрактами.

### Земельный налог

***Я проживаю в кооперативной квартире, являюсь инвалидом ВОВ. С меня взимается земельный налог, правомерно ли это?***

**Н.И.Иванов, г.Мозырь**

Письмо Министерства финансов, Государственного комитета по земельным ресурсам "О налогообложении отдельных земельных участков" № 74 от 27.04.1994 г. предусматривает, что земельные участки в пределах населенных пунктов, занятые многоэтажными домами, являющимися городской коммунальной собственностью, а также жилыми домами, построенных за счет средств местных Советов депутатов, облагаются земельным налогом по ставкам в соответствии со ст. 9 Закона Республики Беларусь "О платежах за землю" от 18 декабря 1991 г. Для возмещения затрат, связанных с уплатой земельного налога, юридические лица, которым предоставлен земельный участок или передано строение для эксплуатации, плату за землю включают в плату за жилье. За земельные участки, предназначенные для обслуживания жилого дома, находящегося в общем пользовании нескольких юридических лиц или граждан, земельный налог, согласно ст. 20 вышеуказанного закона, начисляется каждому из этих пользователей соразмерно их доле на эти строения.

В соответствии со ст. 19 закона РБ "О платежах за землю" от 18.12.1991 г. участники Великой Отечественной войны от уплаты земельного налога освобождаются.

Ст. 17 вышеуказанного закона предусматривает, что жилищно-строительные и гаражно-строительные (гаражные) кооперативы, садоводческие и садово-огороднические товарищества освобождаются от уплаты земельного налога в части площади земель, приходящейся на граждан — членов указанных организаций, имеющих право на льготы в соответствии со ст. 19 закона.

*Александр КОРЗЕНОК, водитель латвийской пекарни, белорус:*

# "Я от души желаю землякам пойти по такому же пути, как мы"

*После школы белорус Александр Корзенок попал служить в артиллерийскую часть под Ригу. Накануне увольнения в запас согласился пойти на курсы младшего офицерского состава. С тех пор больше тридцати лет живет в городе Цесис. На латышской земле Корзенок женился, со своей супругой Аллой вырастили двоих сыновей. Из Советской Армии уволился в звании майора. Бывший советский офицер-пенсионер со времени образования независимого Латвийского государства неизменно работает водителем-экспедитором одной из частных пекарен в своем городке. Немного подумав, он согласился ответить на мои вопросы.*

**— Сами-то Вы, Александр Николаевич, по каким делам оказались в наших краях?**

— С утра в соседнем райцентре Глубокое закончил переоформление документов в ГАИ на передачу автомобиля "Мазда-626" по дарственной своему брату. По его просьбе купил в Латвии и перегнал сюда иномарку в подарок. Знаете, в нашей стране с приобретением "колес" проще, более широкий выбор. Заодно проведал и своих старених родителей. Несмотря на то, что им за семьдесят лет, папа с мамой все еще возятся на земле, ведут большое хозяйство, имеют свою лошадь.

Ну, а здесь, в Поставах, я проездом. Повидаюсь со своим другом, переночую у родственников, а потом через Литву мне проще добираться назад к себе домой.

**— Вероятно, Вы неплохо зарабатываете, если можете себе позволить подобные презенты?**

— Наша фирма из 12 человек занимается выпуском и реализацией хлебобулочных изделий. Я уже десять лет на микроавтобусе "Фольксваген" развожу по городу и окрестностям, даже на хутора, различные хлеба в целлофане, красиво оформленные булочки, корзиночки. Пекарню создала латышка Диана, деловая и современная женщина. Вначале у нее был мясной бизнес, потом перешла на хлеб. Сначала арендовали помещение, потом удалось построить свое, оснастить пекарню самым современным оборудованием. С хозяйкой были и раньше знакомы. Может, зная мои симпатии к идее независимости Латвии, любовь и знание техники, она и пригласила к себе работать?

Я — единственный водитель и механик. Работаю, правда, без выходных, и зарабатываю в месяц более тысячи долларов. Когда необходимо, а также по праздникам за руль садится сама шеф фирмы. Жена у меня безработная, живем с ней в уютной трехкомнатной квартире. Старший сын с семьей в Риге, младший теперь служит в латышской армии.

**— В Беларуси много говорят о высокой плате за квартиру в Латвии, о бедности многих людей, не способных оплачивать коммунальные услуги.**

— Насколько я знаю, в Беларуси также часть населения не в состоянии покрывать даже далекую от реальной стоимость квартиры. Вы еще придете к тому, что будете платить не символические суммы, а полную стоимость жилья. Да, здесь есть проблемы, и некоторым семьям с низкими доходами, особенно тем, кто потерял работу, приходится думать о переходе в жилище с меньшей площадью. Это непросто с психологической точки зрения. Но, поверьте, никто никого в холода не выбрасывает на улицу. Наша нынешняя жизнь при капитализме заставляет всех думать, считать, вертеться, чтобы обеспечить себе и близким достойный уровень жизни. В нашем обществе гораздо меньше людей, испытывающих ностальгию по советским временам.

**— А не чувствуете Вы дискриминацию по языковому фактору?**

— Я могу свободно общаться с латышами в быту и на работе, хотя экзамен на знание латышского языка не выдержал в той степени, чтобы претендовать на получение гражданства. Непросто, знаете ли, в пятьдесят лет садиться за учебники при такой загруженности. По моим наблюдениям, сфера русского языка не сузилась, выходят газеты на русском и других языках национальных меньшинств. У нас, кстати, осталась только одна государственная газета, призванная публиковать государственные акты и другие официальные документы. Вся остальная пресса имеет хозяев, выходит в цвете и, как одна из старейших ежедневных газет "Диена", ориентируется на читателя, в том числе и русскоговорящего. На Латышском телевидении я могу смотреть, например, программу "Итоги" НТВ, можно принимать многие каналы из России. У нас популярен Рижский театр русской драмы. В бизнесе очень много представителей некоренной нации.

**— Каким образом развивается в Вашей стране рыночная экономика, растут ли цены?**

— Я бы разделил девяностые годы на два этапа. Первые несколько лет независимости было действительно трудно. Тогда быстро росли цены, годовая инфляция достигала трехсот процентов. Последние годы она составляет у нас всего три процента. У нас везде командует частник, не нашлись хозяева только у железной дороги, морского пароходства, энергосистемы края и парочки бывших советских крупных предприятий. Практически все жители чувствуют, что к нам пошли инвестиции, окрепли после кризиса 1995 года банки. В среднем в Латвии заработная плата достигла 168 латов в месяц, или почти 280 долларов. У меня до достижения 65 лет половинная военная пенсия в 35 лат (70 долларов), а пенсионеры имеют на жизнь 100 долларов. Дороже, чем у вас, в нашей стране сигареты, спиртное, тот же хлеб — примерно в два раза. Остальное почти одинаковой стоимости, только в Латвии гораздо больший выбор товаров и услуг.

**— Много говорится о растущей безработице в Вашей стране.**

— Я бы так не утверждал. Да, после известного августовского кризиса в России у нас уровень безработицы составлял 10,1 процента. Потихоньку число незанятых уменьшилось, и теперь их по стране меньше восьми процентов. В Риге еще проще найти подходящую работу. Хуже ситуация в маленьких городах и на селе. Некоторые вынуждены идти наниматься к хозяевам ферм батраками, более энергичные получили возможность уезжать работать за границу. Зато за свою работу все держатся. Сам я ни разу фирму не подвел, ни разу на работу не опоздал, клиента не обидел, поскольку знаю, что на мое место претендует еще несколько желающих.

**— Не устали от работы без выходных? Свободного времени ведь маловато...**

— Я на свою жизнь не жалуюсь. Хозяйка — замечательная женщина. Предоставила неделю на поездку в Беларусь. Дома у родителей я, между прочим, бываю чаще, чем моя сестра, живущая в Бресте. Главное — ощущать, что за твой труд тебе адекватно платят, а позволить себе мы теперь с женой можем многое. Есть у нас и дача на Рижском взморье. И ведь не всегда приходится работать до вечера. Бывает, удается вздремнуть в ожидании доставки заказа. Больше всего люблю отдых на природе. Когда крепче встанет на ноги наша пекарня — появится больше времени для отдыха. А так ничего не изменишь, хлебушек людям нужен на стол каждый день. Зато я знаю, что у меня в старости будут средства, чтобы поездить по заморским странам, отдохнуть на тех же Канарах. Пока должен позаботиться и об устройстве в жизни второго сына.

**— И напоследок. Скажите честно, Александр Николаевич, нашли Вы свое место в латышском обществе?**

— Когда в любой стране человек чувствует себя спокойно и хорошо, разве может быть такое государство для тебя чужим и неприветливым? Чем больше здесь живу, тем сильнее ощущаю привязанность и уважение к Латвии. Мне было приятно пригласить сюда родственников в гости и показать нашу жизнь. Еще в советские времена чувствовал у нас европейский дух, высокую культуру, национальный колорит. Молодая страна все это сохранила и приумножила и претендует через два года на вступление в Европейский Союз. Я от души желаю и моим землякам пойти по этому пути! Эмигрантом себя не ощущаю, не комплексую, что мне не дано выбирать и быть избранным в органы власти. Когда жизнь устроена, совсем неинтересно заниматься политикой.

**Беседовал Владимир ШИК.**

